# Рабочы Бабруйска

Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 11. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА. №41.

## НАДЫШЛІ КАЛЯДКІ, БЛІНЫ ДЫ АЛАДКІ

Ну вось і набліжаюцца Калядкі! Здзіўляецеся, адкуль у мяне столькі радасці і аптымізму? Ну як?!

Па-першае, можна з сябрамі развучыць некалькі беларускіх калядных песень, апрануць каго-небудзь у "казу", узяць з сабою гарманіста (здаецца, я больш нікога не забыла) і "адпраўляцца ў турнэ" па кватэрах жыхароў нашага слаўнага горада Бабруйска. Але ж гэта больш падыходзіць да тых, хто любіць вяселле і жарты. Ну, а па-другое, вы можаце на Каляды даведацца пра тое, што вас чакае ў будучым. Спакуслівая гэта рэч – варажба! Якой дзяўчыне не хочацца ведаць, якім будзе яе суджаны. У свой час нашы маці, бабулі і прабабкі таксама збіраліся разам са сваімі сябрамі, каб паваражбіць. Гэта было неад'емнай часткай іх жыцця. Мне здаецца, што і ў нашыя часы гэтыя традыцыі засталіся. Напэўна, вам будзе цікава даведацца, як варажылі нашы продкі. А рабілі яны гэта так:

– Бралі валёнак і кідалі праз страху, каб ён там завіс, і куды насок пакажа – з таго боку і суджанага трэба чакаць.

– Хлопцы і дзяўчаты ходзяць па агароджы і абхопліваюць плот рукамі: калі ў абхваце атрымліваецца парны лік – хутка вяселле, непарны – не хутка.

– Кожная дзяўчына кідае сабакам аладкі, і чыю першую яны схопяць, тая і спадзяецца раней выйсці замуж.

– Хлопцы і дзяўчыны плавяць воск і льюць у ваду, і па адлітых фігурах угадваюць свой лёс.

Ну што скажаце? Не жадаеце паспрабаваць?

**Надзея КОНЧЫЦ.**

*Паважаныя чытачы "Рабочага Бабруйска". Ад усяго сэрца віншуем Вас са святамі – Калядамі і Новым годам. Дзякуй, што былі з намі, пісалі, тэлефанавалі. Здароўя Вам, шчасця, дабрабыту! Сустрэнемся ў трэцім тысячагоддзі.*

РЕАЛИИ

## ПРОИЗВОЛ «В ЗАКОНЕ»

Сегодня в городе часто можно встретить рекламу, на которой крепкий розовощекий парень в милицейской форме призывает позвонить по телефону доверия. В идеале так и должно быть милиция – это структура, стоящая на страже закона и порядка. А в жизни...

Часто слышишь: того побили, у того деньги отобрали, кого-то необоснованно поместили в медвытрезвитель. Разговоры – разговорами, а факты – фактами.

Так к журналистам "Рабочего Бобруйска" поздним вечером 12 декабря обратился с просьбой о помощи отец 19-летнего Алексея Богданова. На этот шаг отца вынудил тот факт, что его сына избивали сотрудники опорного пункта №1. А дело было так. Отец с сыном возвращались с работы. Перед этим выпили по бутылке пива. Пьяными не были, ни к кому не приставали, шли домой, мечтая об ужине. Но ужинать им в этот вечер не пришлось. Встретился на пути милицейский патруль. Чем-то не понравились работникам правопорядка уставшие мужчины, и их повели в опорный пункт. Спустя три часа дружинник составил на них протоколы и предложил подписать. Отказались. Отец просил отпустить их домой, а сын напомнил доблестным служителям правопорядка, что их незаконно держат более 3-х часов. "Грамотных" в милиции явно не любят. Алексея вывели на допрос. На "допросе" его стали избивать. Сломали нос, травмировали руку. Отец слышал, как сына "воспитывали". После этого избивавший Лешу дружинник попросил его тихо и мирно идти домой. Парень был возмущен, ответил отказом. За отказ – новый протокол: хулиган, мол, ты, Леша, да грубиян. Отца отправили домой, а непокорного сына сдали в Ленинский РОВД.

В районе часа ночи 13 декабря мы пытались выяснить у дежурного, за что, почему и когда отпустят Алексея домой, на что получили ответ: "Не отпустим и будем судить". По требованию отца на минутку нам показали Алексея. Одежда была в крови, разбит нос, губы, синяк под глазом. Видно было, что его трясет. Ночью Леша просил воды, ему ответили, что тут не ресторан. Утром "аквариум" посыпали хлоркой. У Алексея начала развиваться аллергическая реакция. Он попросил перевести в другое помещение, на что получил ответ: "Тут тебе не гостиница". Родители хотели попасть на суд сына, но дежурный по РОВД сказал, что их все равно не допустят в суд. А судья, оказывается, сама прибыла в Лениский РОВД.

Судили быстро, некоторых заочно. Тут же, возле "аквариума". Судья хоть и спросила Лешу, как было дело, да не выслушала. Не обратила внимание и на состояние парня, на окровавленную одежду. Предложила выбрать между отсидкой и штрафом. Так Алексею присудили штраф в размере 18 тысяч. Он подал жалобу в прокуратуру Ленинского района г. Бобруйска, обратился за юридической и моральной помощью в Бобруйское отделение правозащитного Центра "Вясна".

Редакция "Рабочего Бобруйска" будет внимательно следить за дальнейшей судьбой 19-летнего Алексея Богданова.

Всех тех, кто столкнулся с произволом, грубостью, жестоким обращением со стороны стражей правопорядка, просим сообщать в редакцию "Рабочего Бобруйска" и правозащитный Центр "Вясна".

**Дана ЧИГИРЬ.**

## КРЫЎДА ПАДПАЛКОЎНІКА

**(РЭАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ, РАСКАЗАНАЯ ПАЦЯРПЕЛЫМ.)**

Падпалкоўнік запаса Георгій Ражкоўскі, вяртаючыся дамоў, нават і не здагадваўся, з якімі прыгодамі яму прыйдзецца сутыкнуцца. Год таму, 28 снежня, ён быў запрошаны ў госці да дырэктара Дома абутку Ліліі Батуравай і яе мужа Уладзіміра, якія пражываюць на плошчы Леніна, у доме, дзе знаходзіцца кавярня "У фантана". У згаданым гандлёвым прадпрыемстве на той час ён працаваў загадчыкам гаспадаркі. Пасля сардэчнай размовы і выпітай бутэлькі шампанскага ды кілішка каньяку, у 22 гадзіны Георгій развітаўся з гасціннымі гаспадарамі. Ужо на шляху да прыпынка таксі падышоў да навагодняй ёлкі, палюбаваўся прыгажосцю зялёнай красуні, міжволі ўспомніў сваё дзяцінства і дзетдомаўскія будні. Але дайсці да прыпынка ён не паспеў. Яго дагнаў патрульны нарад міліцыі: "Мужык, стой!". Прыйшлося спыніцца. Тыя ж без тлумачэнняў узялі яго пад рукі і са словамі "Пойдзеш з намі!" пацягнулі ў "апорнік", што знаходзіцца ля Дома афіцэраў. Ражкоўскі давёў ім, што быў афіцэрам і прасіў, каб адпусцілі. Аднак у адказ пачуў наступнае: "А-а, падпалкоўнік, вось зараз і разбярэмся, як ты над намі ў Арміі здзекаваўся". Надзеі на тое, што, магчыма, дзяжурны выслухае і зразумее, лопнулі, як мыльная бурбалка. Таго на месцы не аказалася. Затрыманага сілком паспрабавалі ўцягнуць у клетку біткам набітую п'янымі і бамжамі розных узростаў, але той не надпарадкаваўся. Тады ў яго канфіскавалі ваенны білет, ключы, 1350 рублёў. Склалі акт, дзе зафіксавалі прычыну затрымання – дробнае хуліганства. Вядома, дакумент той не падпісаў. Праз некаторы час, прыкладна ў 23.15, па вызаву прыбыў прадстаўнік медвыцвярэзніка. Старшы сяржант моцнага целаскладу прыступіў да агляду. Як "Мухтару", ён скамандаваў: "Устаць! Сесці! Устаць! Сесці!" Зразумеўшы, што гэта занадта лёгкі іспыт, карэнасты здаравяка моцным ударам кулака ў грудзі паспрабаваў вывесці палоннага з раўнавагі. Потым яшчэ і яшчэ, ды той зноўку на нагах утрымаўся. Тады сяржант з абурэннем адзначыў: "Хлопцы, нашто вы вызывалі, ён жа абсалютна цвярозы, і ў мяне яго не прымуць!". Але непрыемнасці толькі пачыналіся. Адразу ўсе трое паваліді Георгія тварам уніз на мокрую, брудную падлогу і заламалі рукі назад. Адзін з напаўшых раптам нанёс рэзкі ўдар ботам у вобласць пахвіны. Адчуўшы востры боль, збіваемы закрычаў: "Што ж вы, гадзёнышы, робіце!?"

Ноччу, у 0.30, Ражкоўскі падышоў да сядзеўшага за вакном сяржанта і папрасіў адпусціць, спытаўшы ў яго: "Табе тых грошай хопіць, што ў мяне ёсць?". На здзіўленне, той адразу зацікавіўся пастаўленым пытаннем і правёў затрыманага да дзяжурнага, старшага лейтэнанта, які тут жа распарадзіўся выпусціць. Да дому небарака дабраўся толькі праз дзве гадзіны – без грошай на таксі не паедзеш.

Раніцай, 29 снежня, Георгій прыехаў у УУС, што на вуліцы Гогаля, і звярнуўся да начальніка аддзела аховы грамадскага парадка. Па просьбе пацярпелага таму выдаецца накіраванне на праходжанне судова-медыцынскай экспертызы. Да таго часу ён ужо паспеў звярнуцца ў медустанову, у тым ліку да уролага, якім не выключалася нават хірургічнае ўмяшальніцтва. Экспертызу прайшоў на наступны дзень, заключэнне было гатова 10 студзеня. У пракуратуру не звяртаўся, чакаў вынікаў абследвання, і 11 студзеня, даведаўшыся, што законам выдача не прадугледжана, падаў заяву на імя пракурора Ленінскага раёна горада, якая была зарэгістравана 14 студзеня.

На працягу першага месяца на працу, да яго прыходзілі двое – адзін з тых, хто затрымліваў, і другі – з медвыцвярэзніка. Яны ўпарта даводзілі: "Нам цябе шкада, мужык, ты нічога не здолееш даказаць". Прыходзіў і бацька аднаго з іх, начальнік тыла пятага армейскага корпуса – прапаноўвалі свае паслугі. Аднак пачулі цвёрды адказ, што ўсё вырашыцца ў судовым парадку, ды выказаў пажаданне, каб яго пазбавілі ад візітаў рознага рода малодчыкаў з каманды "Рэмба".

Пасля 21 студзеня навін аб прынятых мерах Ражкоўскаму больш і не паступала. Пабоі не-не, ды час ад часу нагадваюць аб сабе, напамінаючы аб перанесеных знявагах. Бальнічныя лісты не браў – неяк няёмка. Пасля здарэння на працы пайшлі шэптанні за спіной, а калектыў жаночы – сорамна. Узяў і звольніўся з працы – паспрабуй растлумач, што гэта ў нашай дзяржаве можа адбыцца з кожным.

**Віктар КАЧАН.**

ГЛАС НАРОДА

## РАЗМЫШЛЕНИЯ МЕЖДУ ПРОШЛЫМ И БУДУЩИМ

Последний в этом году, веке, тысячелетии наш телефонный опрос бобруйчан мы решили не утяжелять проблемностью тематики, витиеватостью формулировок. На носу Рождественские, Новогодние праздники – кому охота утруждать воображение перемалыванием недостатков текущей жизни. Предложенные вопросы были просты и лаконичны. **"Какие события, по вашему мнению, оставили наиболее глубокий след в истории XX века?"**. Таким был первый. И второй: **"Чего ждете от века грядущего для Человечества и себя лично?"**

Напоминаем нашу методику. Вербальный контакт осуществляется посредством набора случайного телефонного номера (30 удачных попыток). Данный опрос социологическим не является и на репрезентативность не претендует.

Наиболее интересные ответы предлагаем вашему вниманию.

**Виктор Андреевич, 57 лет:**

*— По-моему, это два события: образование социалистического государства и его развал семь десятков лет спустя. Начало – поучительное, конец – символичен.*

*Поменьше экспериментов с народами. Есть экономическая модель, доказавшая свою эффективность. Это западный образец. И не надо больше изысканий – обходится очень дорого. А я хочу дожить до реальных перемен в своей стране.*

**Светлана Сергеевна:**

*— Главное событие этого века – окончание "холодной войны" между ведущими государствами мира.*

*Надеюсь, в следующем веке люди поумнеют настолько, что перестанут затевать войны. И для себя – мира в семье.*

**Дмитрий, 22 года:**

*— Потрясающее изобретение человечества – компьютер. Я считаю это главным мирным событием XX века. Люди всегда мечтали обладать информацией в максимальном объеме. Интернет – осуществление этой мечты.*

*Человечеству – жить в мире, согласии, взаимопонимании. Себе – хорошую работу и удачи в личной жизни.*

**Антонина Ивановна:**

*— Октябрьская революция – вот главное, что произошло в XX веке. И если бы не Горбачев, мы бы уже весь мир завоевали, сделали бы мировую революцию. А он … всю нашу огромную страну развалил…*

*Хочу, чтобы вернулась советская власть. Другой у меня мысли нету. За это буду бороться до конца своих дней.*

**Олег Андреевич, 45 лет:**

*— Много в уходящем веке было событий, которые можно назвать значительными. Во-первых, это победа над фашизмом. Далее – торжество медицины – победа над многими ранее неизлечимыми болезнями. Кардинальное усовершенствование транспортных средств, телефонной связи, изобретение телевизора, компьютера, полет человека в космос – это можно назвать победой над расстоянием. Ну и восстановление разрушенных храмов, возвращение людей к вере можно назвать победой над собой.*

*Две тысячи лет, прожитых от Рождества Христова, — это своеобразный рубеж. Надо подвести некоторые итоги, признать и учесть ошибки, вспомнить, зачем человек рождается на Земле. И, внеся необходимые коррективы, жить дальше. Я, во всяком случае, постараюсь.*

**Опрашивал народ А. ЛИТВИНОВ.**



*Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 11.*
*Наш телефон: 7-37-68 (вторник, пятница с 12 до 16 часов).*

СЕМЬЯ

*В настоящее время около 30 тысяч беларуских детей имеют статус сироты или лишены родительской опеки. В Бобруйском районе число таких малышей приближается к двумстам. Казалось бы, цифра не такая уж большая, но за ней – почти две сотни искалеченных детских судеб, уже с младенчества обожженных ощущением своей "никомуненужности".*

# ОЧЕРЕДЕЙ НА УСЫНОВЛЕНИЕ НЕТ

**I. СТАТУС СИРОТЫ**

Только в Михалевском детском приюте сейчас проживает 25 детей, чьи «предки» – нет, не умерли, но вовсе не претендуют на материнство и отцовство. Еще примерно столько же детей – не сироты, но нуждаются в опекунстве. Эти дети – ничьи. И каждый ребенок ежедневно просыпается с надеждой, что, может быть, именно сегодня порог приюта переступят люди, которых он сможет назвать папой и мамой.

– Найти для них новую семью очень сложно, – говорит инспектор по охране детства Елена Александровна Морозова. – Не так уж много людей, желающих взять на себя нелегкие обязанности родителей, хотя с 1 января 1999 года наше государство выплачивает усыновителям и опекунам пособие, ежемесячно, до совершеннолетия ребенка. Помимо того, на детей, чьи родители умерли, выплачивается еще и пенсия по потере кормильца. Далеко не в каждой семье люди могут тратить такие деньги даже на своих собственных детей. И все же... очередей на усыновление у нас нет.

Например, в минувшем году мы выявили в районе около 50 сирот, 17 из них сейчас определены в интернаты. Только для 16 сирот нашлись опекунские семьи. Конечно, и это радует, но вообще-то семья нужна каждому ребенку. Люди, которые интересуются проблемами усыновления, часто говорят о том, как сложно оформить для этого все документы, тем более, что с 1 сентября прошлого года процедура усыновления производится только через суд. Но на мой взгляд, если человек принял для себя решение «стать родителем», его это не остановит. Честное слово, -мы готовы таких родителей нести в суд на руках, поможем все оформить в кратчайшие сроки – только помогите детям! Бюрократическая машина может остановить разве что тех людей, у которых любовь к брошенным детям не превышает размеров банального любопытства. А ведь за этих детей больно не только сейчас! Хоть и нет такой официальной статистики, но большинство выпускников школ-интернатов – это будущие родители будущих сирот! Очень многие дети, выросшие в детских домах, вступают в конфликт с законом, не могут найти своего места в жизни, создать собственную семью. И в результате мы встречаем в приюте сирот во 2-ом, 3-ем поколениях.

Некоторые люди почему-то считают, что усыновлять чужих детей могут только обеспеченные семьи – дескать, что может дать ребенку бедная мать? Да совсем «немногое» – тепло своих рук, участие, свою любовь. Даже если ребенок растет в семье с очень скромным достатком, это все-таки для него гораздо лучше, чем самый «богатый» детский дом.

И очень радует, что в любые, даже самые тяжелые времена, есть люди, которые это понимают и стараются помочь детям не на словах, а на деле.

**II. КАЖДАЯ МАМА МЕЧТАЕТ О ДОЧКЕ**

Разговаривая на семейные темы с разными людьми, я заметила довольно интересную закономерность: почти все будущие папы и мамы мечтают о сыне, а вот усыновить, или точнее удочерить, чаще всего хотят девочку. Может быть, это оттого, что каждая мама втайне мечтает о дочке? Но как бы там ни было, если раньше детей обычно усыновляли «одинокие», т.е. бездетные родители, то теперь в Дом ребенка все чаще приходят люди, у которых есть сын или даже двое. Приходят, чтобы «родить» дочку.

Одна из таких семей проживает в поселке Глуша. Это Олег и Елена Новиковы. Их дети – сын Лены от первого брака Руслан, и две дочки – Вика и Настя. Проблемы со здоровьем не позволили Олегу и Лене иметь своих детей, поэтому 4 года назад в их семью «пришла» двухмесячная Вика и стала их дочерью. А буквально на днях у них «родилась» еще одна девочка – 2-х месячная Настя.

– Я просто прочла в газете статью о том, что можно взять ребенка на усыновление, – рассказывает Елена Васильевна. – Сама очень люблю детей, можно сказать, с детства. И мужу, и сыну эта мысль – удочерить девочку – пришлась по вкусу. Мы с Олегом никогда не видели различия между ней и своим сыном. Конечно, немного избаловали Вику. Она ведь еще маленькая, наказывать жалко. Да и умница какая растет – вот 4 стихотворения выучила, в садике на утреннике прочитала.

Конечно, мы не то чтоб богато живем, но держим хозяйство – и коня, и корову, гусей, кур. Свой трактор есть, даже Руслан на нем уже работает. Всех детей вырастим. А что они видят в детдоме? Им всем нужна материнская ласка.

Я от своих детей никогда не устаю. Да и какая усталость? Быть с детьми, заботиться о них – это не работа, а радость. Не представляю, как можно бросить своего ребенка. Такая женщина – не то что не мать, это не человек, слов не найдешь на нее. Я бы никогда свою Вику не бросила.

А вот Настю взять предложили Олег и Руслан, да и родственники не против. Почему девочку взяли, а не мальчика? Дочка очень любит детей, хочет сестричку. Вот и будут вместе расти. Мы уже сейчас думаем: подрастут наши девчата, может, и еще ребеночка возьмем.

У моих родителей была большая семья – 9 детей, и у Олеговых – четверо. В жизни нормально устроились, в тюрьму никто не попал.

У моей старшей сестры – 8 детей, у другой – 7. Некоторые уже сами работают. Не очень богато живут, но никто и не голодает. Разве это плохо, когда большая семья? Я вообще хотела бы создать детский дом семейного типа, но это сложно, у нас в районе таких нет.

Кем мои дети станут, когда вырастут, я как-то не думала. Сами решат. Главное, чтоб были добрыми, человечными. И друг друга не забывали. Одиночество – это очень страшно, особенно в старости. Хотя, бывает, что и свои дети бросают стариков. Но почему-то я верю, что мои дети меня не бросят...

**III. БОЛЬШАЯ И СЧАСТЛИВАЯ СЕМЬЯ**

Когда-то многодетной считалась семья, которая воспитывает пятерых детей. Теперь – та, где трое малышей... Не идет ли дело к тому, что родители одного ребенка тоже в недалеком будущем будут считать себя многодетными? Когда зарплаты «не дотягивают» даже до прожиточного минимума, эта перспектива становится достаточно реальной...

К сожалению, все чаще приходится слышать о больших и... неблагополучных семьях, когда трое, пятеро, а то и семеро детей отправляются в приют, потому что родители не хотят и не в состоянии обеспечить им приемлемое существование. Заслуживают ли похвалы такие «матери-героини», чей «подвиг» – не от любви к детям совершен, а по бестолковости или по беспечности, а бывает, что и по пьянке... Большие семьи все реже бывают не только счастливыми, но и хотя бы просто благополучными.

Тем более заслуживают восхищения те люди, которые даже в самых трудных условиях стремятся к созданию именно такой семьи – большой и счастливой. И при этом еще умеют обогреть своим теплом детей, лишенных материнской любви и заботы. К счастью, такие люди есть, и их не так уж мало.

Для тех, кто обдумывает для себя вопрос возможного усыновления, сообщаем, что узнать обо всем этом вы можете у инспектора РОНО по охране прав детства Е.А. Морозовой по телефону 7-38-97. Возможно, именно благодаря усыновлению в вашу семью придет радость отцовства, счастье материнства. Отзовитесь на призыв «Найди меня, мама!»

Очереди на усыновление нет.

**Елена ЧЕКУЛАЕВА, Бобруйский район.**

АНАРХІЯ

# ЗВЫЧАЙНЫ ВАНДАЛІЗМ

Не цяжка зразумець, што ўзровень культурнага развіцця таго ці іншага грамадства вызначаецца яго адносінамі да памерлых. Наша грамадства, і гэта відавочна, зараз моцна хворае з пункту погляду сацыялогіі і дэмаграфіі. Пад бязглуздым кіраўніцтвам Беларусь пакрысе вымірае. Але і пасля смерці чалавек часам не знаходзіць вечнага спачыну, бо кожны дзень нейкі вандал можа пашкодзіць яго магілу, скрасці вянкі і кветкі, разламаць намагільны помнік.




За апошні час у Бабруйску было зафіксавана пяць масавых актаў вандалізму на Мінскіх могілках, і кожны новы выпадак больш нахабны і масавы, чым папярэдні. Нягледзячы на тое, што па падазрэнню ў разбурэнні арыштоўваюцца нейкія падонкі сатанінскай секты "Дети тьмы", шабаш на могілках працягваецца. На гэты раз уначы 12 снежня на Мінскіх могілках было разбурана каля 200 надмагільных помнікаў і крыжоў.

Мінскія могілкі безумоўна можна лічыць бабруйскай славутасцю. Першапачаткова яны знаходзіліся ў вярсце ад горада. Дакладны час з'яўлення іх вызначыць немагчыма, але прыкладна гэта канец 18-га стагоддзя. Найбольш старажытнае пахаванне, якое захавалася да нашага часу, датавана 1798 годам. У пачатку 19-га стагоддзя ў Бабруйску налічвалася 10 могілак. Што засталося ад іх сёння? Шмат хто з бабручан нешта чуў пра "нямецкія могілкі" і пра "могілкі на Фарштадце", але на жаль толькі чуў.

Вытокі сённяшняга вандалізму знаходзяцца ў 60-70-х гадах 20-га стагоддзя, калі па загаду камуністычных улад знішчаліся мясцовыя могілкі ў тых выпадках, калі на іх ужо не праводзілася пахаванне, а іх тэрыторыя апынулася сярод жылых кварталаў вялікіх гарадоў. Не аднойчы мне даводзілася чуць пра тое, як дзеці гулялі з чарапамі і косткамі, а надмагільнымі помнікамі брукавалі дарогі і вуліцы. Шаноўныя бабруйчане, мы ходзім кожны дзень па костках нашых продкаў!

Дзікунства на Мінскіх могілках хапала і раней: разбіваліся помнікі, якія мелі мастацкую каштоўнасць, адбіваліся крыжы, скідваліся і разбіваліся мармуровыя і гранітныя помнікі, у прытык са старымі ставіліся новыя і г.д.

Асобная гаворка пра санітарны і экалагічны стан могілак. У ліпені сябры маладзёвых арганізацый "Грамадзянскага форума" і "Маладых сацыял-дэмакратаў", абураныя адносінамі старэйшага пакалення бабруйчан да памяці продкаў, прыбралі частку тэрыторыі могілак. На вялікі жаль, іх грамадзянская ініцыятыва не знайшла падтрымкі, як збоку бабруйскіх улад, так і з боку праддзяржаўных маладзёвых арганізацый.

Афіцыйная прапаганда любіць эксплуатаваць памяць аб нашых продках, але акрамя кветак на Дзень перамогі больш нічога не робіцца. Не магчыма пабудаваць будучыню на касцях чалавечых.

Асуджаючы ўдзельнікаў шабашу, узгадайце, калі ласка, масавае распіццё гарэлкі на Радаўніцу. Задумайцеся, які прыклад мы падаем нашым дзецям і што чакае нас, тых, хто жыве сёння.

Ці зразумее нарэшце кіраўніцтва краіны, што могілкі – гэта такі ж набытак нашай культуры і гісторыі, як паркі і помнікі. А мы, бабруйчане, здолеем надаць нашым мемарыяльным комплексам такую ж увагу, якая надаецца такім аб'ектам у цывілізаваных еўрапейскіх краінах.

**Алесь ЧЫГІР.**

КРИМИНАЛ

# СИРОТА КАЗАНСКАЯ

Светлану Кузнецову*, которую подруги любовно называли Кузнечиком, никто бы не упрекнул в чрезмерно высокой нравственности. Впрочем, как и в ее отсутствии, о чем вы узнаете из нижеследующего повествования.

Окончив 9 классов в одной из бобруйских школ, Светик решил не обременять себя дальнейшим образованием или какой-либо работой. Отец, хоть и пенсионер, в куске хлеба не отказывает, да и бабушка с пенсии подбрасывает кое-что "на булавки" – так зачем же юному очаровательному созданию горбатиться где-нибудь за станком? Мать Светика за несколько лет до описанных событий отбыла с каким-то очередным воздыхателем в неизвестном направлении, и с тех пор знать о себе не давала. Так что наш Кузнечик по праву считался горькой сиротинушкой. Как писал, правда, по другому поводу, великий поэт Александр Сергеич:

*А девушке в семнадцать лет*
*Какая шапка не пристанет?*

И действительно, к Светику "шапки" приставали разные. В результате чего в течение одного только 2000-го года девушка дважды побывала в районном суде в роли потерпевшей в делах об изнасиловании. Расскажем немного о каждом.

Итак, дело первое. Однажды наша прелестная героиня поехала в гости к своей деревенской подруге в Бродовку. Девушки вместе пошли на танцы, и там Светик совершенно случайно встретила своего... скажем так, друга. Особых чувств между ними не было. Ну так, подумаешь, переспали пару раз полгода назад. Это даже и не повод для знакомства, верно?

В этот роковой вечер одноразовый воздыхатель, к несчастью для себя, решил почему-то вспомнить о былой привязанности и пригласил нашего Кузнечика на дачу к своему другу. Результат приглашения был следующий: через пару дней Светочка написала в прокуратуру заявление, где сообщала, что бывший возлюбленный вместе со своим другом изнасиловали ее как в естественной, так и в извращенной форме. Акт экспертизы подтверждал получение Кузнецовой С.В. легких телесных повреждений.

Еще через пару недель Светочка была друзьями обвиняемых бита, и потому двоих насильников поселили в "башне". Еще через месячишко папа бывшего ее любовника вручил девушке 300 "зеленых", и она скоренько изменила показания: теперь получалось, что экс-воздыхатель ее и вовсе не насиловал, у них все было "по согласию". А насиловал только ее нехороший друг. Поскольку на момент написания всех этих произведений слезного жанра Кузнечику еще не исполнилось 18-ти лет, прокуратуре поневоле приходилось принимать все ее фантазии близко к сердцу. В результате судебного заседания друзья-насильники получили по три года с отсрочкой приговора, и скажу я вам, еще очень легко отделались. Всего-то и провели полгода "на башне", пока дело дошло до суда. Между прочим, богатый папенька сейчас находится под следствием за подкуп несовершеннолетней.

Случай второй. Однажды Светочка (на этот раз уже будучи совершеннолетней) собралась ехать в деревню. Ну да, в ту самую деревню, к той самой подруге. В точности, как баба Яга из анекдота: меня вчера на этой поляне изнасиловали, и сегодня на этой поляне изнасиловали. Завтра опять сюда приду. Так вот, сидит себе Светочка тихо-мирно на вокзале, никого не трогает. И к ней никто не пристает, даже обидно как-то. Вдруг подсаживается к девушке незнакомый молодой человек и предлагает выпить шампанского за его недавний день рождения, а также за приятное знакомство. Светик для виду поупиралась, но потом все-таки выпила. И тогда говорит ей молодой человек: а зачем это вам, такой красивой, ехать к какой-то деревенской подруге? Давайте лучше поедем вместе в другую деревню, к моей бабушке, а уж оттуда я вас к подруге на машине отвезу.

Что-то смахивает эта история на сказку о Красной Шапочке. Но Светик сходства не заметила, а также не разглядела в своем новом знакомом Серого Волка. Поэтому после непродолжительных уговоров села вместе с ним в "его" дизель, и они отправились в путь, допивая по дороге остатки шампанского. А когда вышли из поезда, пришлось идти через лесопосадку. Угадайте, что сделал в темном лесу Серый Волк? Правильно, изнасиловал нашу Красную Шапочку. Как в естественной, так и в извращенной форме. Что позже опять-таки было подтверждено актом судебно-медицинской экспертизы.

Ну разве могла невинная девушка, выпивая и разгуливая по лесу с незнакомым мужиком, ожидать такого плачевного финала? Он ведь обещал на машине покатать, а сам... Подлый обманщик! За свое вероломство Серый Волк получил на суде 3,5 года ИТК строго режима и отбыл в места не столь отдаленные.

Наша сиротинушка собирается выходить замуж. Нет, не за первого подлого обольстителя. Нашелся небрезгливый парень ей в пару. И обеспеченный, и с машиной. Вот посадит Светочка папеньку своего предыдущего жениха (ну, вы же помните – папенька за подкуп погорел) – и свадебку сыграет. Совет да любовь...

А теперь скажите на милость, кто во всей этой истории – потерпевший?

*Фамилии изменены.

**Григорий АНТОНОВ.**

